Гродна
№9 (515),
5 мая 2019

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# МАРЫЯ ПРЫКЛАДАМ ДЛЯ МАЦІ

**У нашай краіне пастава вернікаў сведчыць пра вялікую марыйную набожнасць. Людзі збіраюцца ў касцёлах, каплічках, сваіх дамах, каля прыдарожных крыжоў на маёвыя набажэнствы. Паўсюль гучыць Ларэтанская літанія, адна з найпрыгажэйшых малітваў ушанавання Найсвяцейшай Панны Марыі. У Гродзенскай дыяцэзіі ў першую нядзелю мая таксама адзначаецца Дзень маці на знак таго, каб матулі вучыліся любові па прыкладзе Нябеснай Маці.**

● працяг на с. 4

"Там, дзе ёсць Маці, не пануе неспакой, не перамагае страх". Папа Францішак




### III ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ
**Ян 21, 1–19**

Езус зноў з’явіўся вучням сваім каля Тыберыядскага мора. А з’явіўся так. Былі разам Сымон Пётр, Тамаш, званы Блізня, Натанаэль з Каны Галілейскай, сыны Завядзея і двое іншых з вучняў Ягоных. Сымон Пётр кажа ім: “Іду лавіць рыбу”. Яны адказалі яму: “І мы пойдзем з табою”. Пайшлі і селі ў човен, але ў тую ноч нічога не злавілі. Калі ўжо развіднела, Езус стаяў на беразе. Але вучні не ведалі, што гэта быў Езус. Кажа ім Езус: “Дзеці, ці маеце чаго з’есці?”. Яны адказалі Яму: “Не”. А Ён сказаў ім: “Закіньце сетку з правага боку чаўна і знойдзеце”. Яны закінулі і не маглі ўжо выцягнуць яе з-за мноства рыбы. Тады вучань, якога любіў Езус, сказаў Пятру: “Гэта Пан”. Калі Сымон Пётр пачуў, што гэта Пан, падперазаўся вопраткай, бо быў голы, і кінуўся ў мора. А іншыя вучні прыплылі на чаўне, бо недалёка былі ад берага, локцяў каля двухсот, а сетку з рыбай цягнулі за сабою. І калі выйшлі на бераг, убачылі раскладзенае вогнішча, а на ім пакладзеную рыбу і хлеб. І сказаў ім Езус: “Прынясіце яшчэ рыбы, што цяпер налавілі”. Пайшоў Сымон Пётр і выцягнуў на бераг сетку, поўную вялікіх рыб, якіх было сто пяцьдзесят тры. І хоць іх было столькі, сетка не парвалася. Кажа ім Езус: “Хадзіце ж, снедайце!”. Ніхто з вучняў не адважыўся спытацца ў Яго: “Хто Ты?” – бо ведалі, што гэта Пан. А Езус падышоў, узяў хлеб і падаў ім, а таксама і рыбу. Гэта ўжо трэці раз з’явіўся Езус вучням пасля свайго ўваскрасення.

Калі ж яны паснедалі, Езус кажа Сымону Пятру: “Сымоне, сын Яна, ці любіш ты Мяне больш, чым яны?”. Той адказаў Яму: “Так, Пане, Ты ведаеш, што я люблю Цябе”. Езус кажа яму: “Пасі ягнят Маіх”. Зноў кажа яму другі раз: “Сымоне, сын Яна, ці любіш ты Мяне?”. Ён адказаў: “Так, Пане, Ты ведаеш, што я люблю Цябе”. Езус кажа яму: “Пасі авечак Маіх”. І сказаў яму трэці раз: “Сымоне, сын Яна, ці любіш ты Мяне?”. Пётр засмуціўся, што трэці раз спытаўся ў яго: “Ці любіш ты Мяне?” – і сказаў: “Пане, Ты ўсё ведаеш, Ты ведаеш, што я люблю Цябе”. Езус кажа яму: “Пасі авечак Маіх. Сапраўды, сапраўды кажу табе: калі ты быў маладзейшы, то падпяразваўся сам і хадзіў, куды хацеў. Калі ж састарэеш, то выцягнеш рукі свае і іншы падпяража цябе і павядзе, куды не хочаш”. А гаварыў так, каб зазначыць, якой смерцю той уславіць Бога. І пасля гэтых слоў, кажа яму: “Ідзі за Мной”.

## ЗАСТАЦЦА ВЕРНЫМ ПАКЛІКАННЮ

Пасля шчырага жалю і слёз пакаяння Пятра, Езус заклікае яго зноў выплысці на глыбіню, бо ў пэўны момант апостал усумніўся ў сваім прызванні да абвяшчэння Божага Валадарства і вярнуўся да ранейшага жыцця – лоўлі рыбы. Аднак Хрыстос не мае да яго прэтэнзій, ні ў чым не абвінавачвае, а выражае абсалютную любоў, называючы сваіх вучняў дзецьмі. Пасля трохразовага пытання пра любоў Збаўца зноў кліча апостала, кажучы: “Ідзі за Мной”.

Прыклад Пятра паказвае, што адыход ад паклікання і спроба рэалізаваць уласныя планы – бяссэнсны высілак. Пасля прызнання гэтага і абвяшчэння шчырай любові да Настаўніка апостал атрымаў ад Езуса пастырскую ўладу і стаў Яго верным слугой ажно да моманту сваёй мучаніцкай смерці.

**Наколькі я верны пакліканню, якім адарыў мяне Бог?**

**Як адказаў бы Хрысту на Яго пытанне пра любоў?**

### IV ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ
**Ян 10, 27–30**

Езус сказаў: “Авечкі Мае слухаюць голасу Майго, і Я ведаю іх, і яны ідуць за Мною. І Я даю ім вечнае жыццё навекі, і яны не загінуць ніколі, і ніхто не вырве іх з рук Маіх. Айцец Мой, які даў Мне іх, большы за ўсіх. І ніхто не можа вырваць іх з рукі Айца Майго. Я і Айцец – адно”.

## БЫЦЬ ПАСЛУХМЯНЫМ БОГУ

Езус аб’яўляецца як Добры Пастыр, які аддае сваё жыццё за авечак. Хрыстос выразна гаворыць, што да Яго аўчарні належаць тыя, хто слухае Яго голасу. Кожны, хто пазнаў Божае слова, ужо не можа застацца абыякавым да яго, а павінен прыняць запрашэнне Пана і пайсці за Ім. Калі не будзе паслухмяным голасу Бога, лёгка можа заблукаць і замест таго, каб наблізіцца, пачне ад Яго аддаляцца.

Заданне вернікаў – слухацца Хрыста. Гэта азначае безумоўнае прыняцце Яго навукі. Кожны ўчынак хрысціяніна павінен указваць на яго прыналежнасць да Хрыстовай аўчарні. Авечак, паслухмяных свайму Пастыру, ніхто не можа вырваць з рукі Айца. Мы павінны выбраць Езуса сваім Праваднікам, паколькі толькі Ён можа прывесці да вечнай радасці.

**Што я раблю, каб яшчэ выразней чуць голас Добрага Пастыра?**

**Што прадпрымаю, каб яшчэ больш наблізіцца да Бога?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Указвае на Езуса

*Марыйны месяц май мае непаўторны клімат. Зямля нібы апранае мантыю для Маці Божай: дрэвы абсыпаны кветкамі, птушкі закладваюць гнёзды, свежасць і адценне зеляніны паказваюць хараство жыцця, свету, створанага Усемагутным. У той жа час ва ўсіх нашых касцёлах і капліцах, а таксама ля прыдарожных крыжоў і ў прыватных дамах гучаць узнёслыя звароты Ларэтанскай літаніі. Гэта адна з найпрыгажэйшых марыйных малітваў, скіраваная да Бога, адзінага ў Святой Тройцы.*

Першыя і апошнія заклікі літаніі адносяцца непасрэдна да Стварыцеля, астатнія – да Маці Божай, указваючы на розныя аспекты Яе жыцця. Малітва выражае духоўную прыгажосць Марыі, што з’яўляецца плёнам збаўчага дзеяння Пана ў Яе жыцці. Таму Ларэтанская літанія – найперш малітва праслаўлення Усемагутнага, які дзейнічае з моцай і перамяняе стварэнне. У гэтай малітве мы пералічваем разнастайныя характарыстыкі, каб найбольш поўна выразіць таямніцу Марыі і хвалу Бога, які вялікія рэчы Ёй учыніў, а таксама хочам прасіць аб Яе заступніцтве.

Найсвяцейшая Панна Марыя займае выключнае месца ў жыцці вернікаў. Як Маці ўсіх людзей Яна клапоціцца пра дзяцей Касцёла ў кожную эпоху і ніколі іх не пакідае. Бачыць людскія патрэбы і ведае, як з імі справіцца. Як заўважыў св. Ян Павел II, “Марыя атрымала права заступацца за нас перад сваім Сынам”.

Выпадак у Кане Галілейскай выразна паказаў на ролю Маці Божай у жыцці чалавецтва. Багародзіца заўважае ўсе духоўныя недахопы чалавека, якія сімвалізуе нястача вясельнага віна, аднак сама не вырашае звязаныя з гэтым праблемы. Усведамляючы, што дапамагчы можа толькі Пан, звяртаецца да Хрыста. Заўсёды ўказвае на Сына, паколькі ведае, што Езус мае выключную моц, каб пераняць: смутак у радасць, страх у давер, а няўпэўненасць у непахісную надзею. Менавіта ў гэтым заключаецца Яе дапамога: весці чалавека да Бога.

Задача вернікаў – не толькі ў час “майскіх лугоў”, але і на працягу ўсяго жыцця “прыносіць ваду”, выконваць свае штодзённыя заданні ў гонар Усемагутнага. Мы напаўняем збаны вадой, калі распачынаем і заканчваем дзень малітвай, рэгулярна ўдзельнічаем у Эўхарыстыі, сумленна працуем ці вучымся, адважна вызнаём сваю веру, дапамагаем бліжнім, не дапускаем амаральнасці, аказваем любоў, імкнёмся да пакоры і прастаты. Езус жа мае моц усё гэта перамяніць, каб звычайная штодзённасць стала для нас “вяселлем”.

### Дарагія Чытачы!

По прыкладзе Марыі будзьма адкрытымі на Божае слова. Будзьма людзьмі малітвы, перш за ўсё, малітвы праслаўлення Пана. Прысвячайма Стварыцелю наша жыццё, асабліва тое, што баліць, што непакоіць, што многага нам каштуе. Стараймася выконваць волю Пана так, як гэта рабіла Яна.

У гэты асаблівы месяц схопім Марыю за руку і папросім, каб дапамагла нам вытрываць усе жыццёвыя буры.

ЖЫЦЬ ЕВАНГЕЛЛЕМ

# ПЕРШЫ СІНОД
## ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Камісія па справах новай евангелізацыі (рухаў і таварыстваў)

Святы Айцец Ян Павел II на канферэнцыі епіскапата Лацінскай Амерыкі скіраваў Касцёлу вядомы заклік да новай евангелізацыі: “Глядзіце ў будучыню, распачынаючы новую евангелізацыю: новую ў запале, новую ў метадах і новую ў сродках выражэння” (Гаіці, 9 сакавіка 1983 г.). Евангелізацыя, новая ў запале, павінна дзейнічаць у запале, народжаным з асабістай сустрэчы з уваскрослым Хрыстом, і весці да навяртання сэрца. Плёнам гэтай сустрэчы з’яўляецца жаданне перадаць іншым радасць веры. Новая ў метадах евангелізацыя палягае на абвяшчэнні керыгмы, Езуса як адзінага Збаўцы, Пана і Месіі. Евангелізацыя, новая ў сродках выражэння, патрабуе экзістэнцыяльнай мовы, каб Добрую Навіну зразумеў кожны.

Галоўная мэта Сінадальнай камісіі па справах новай евангелізацыі (рухаў і таварыстваў) заключаецца ў пошуку новых дарог і спосабаў, каб дастукацца з Евангеллем да ўсіх. Таму яе члены звяртаюць увагу на важнае месца, якое ў жыцці Касцёла займаюць рухі і таварыствы – будучы арганізаванай формай апостальства, яны дапамагаюць вернікам быць сапраўднымі сведкамі Езуса Хрыста. Тыя, хто прымае ў іх удзел, могуць з большай эфектыўнасцю насычаць сучасную сацыяльную, культурную і палітычную рэчаіснасць евангельскімі вартасцямі.

У дэканальныя камісіі скіравана пытанне аб функцыянуючых у парафіях касцёльных рухах, супольнасцях і малітоўных групах, каб дыягнаставаць бягучую сітуацыю ў Гродзенскай дыяцэзіі. Складзена анкета для ксяндзоў пробашчаў, каб высветліць колькасць груп / супольнасцей і ўцягнутых у іх асоб, характарыстыкі форм апостальства, а таксама патрэбы вернікаў адносна іх.

Сінадальная камісія па справах новай евангелізацыі абмяркоўвае магчымае супрацоўніцтва з лідарамі і душпастырамі касцёльных рухаў, супольнасцей і малітоўных груп, якія дзейнічаюць на тэрыторыі дыяцэзіі. Яе члены прапаноўваюць стварыць Раду каталіцкіх рухаў і таварыстваў Гродзенскай дыяцэзіі, якая стала б пляцоўкай супрацоўніцтва і абмену вопытам паміж рухамі і таварыствамі ў лакальным Касцёле. Душпастырскую апеку над ёй можа выконваць прызначаны біскупам касцёльны асістэнт. Мэтай гэтай рады была б падтрымка місіі і будаўніцтва адзінства рухаў і таварыстваў у дыяцэзіі.

Просім аб святле Святога Духа на далейшую працу Сінадальнай камісіі па справах новай евангелізацыі, перад якой цяпер стаіць важная задача шукання практычных рашэнняў, каб абвяшчэнне Евангелля ў нашай дыяцэзіі было яшчэ больш плённым.

*Кс. Юрый Марціновіч*

## Хросная маці піша да хрэсніцы

**Мая даражэнькая!**

Зусім хутка настане дзень, калі ты ўпершыню прымеш у святой Камуніі Езуса Хрыста. Я ведаю, як чакаеш гэтай падзеі. Павер, і Ён таксама чакае...

Хачу запэўніць, што гэты дзень назаўжды зменіць тваё жыццё. Ужо ніколі не застанешся адна – душу будзе грэць Божая прысутнасць. Твая задача – падтрымліваць гэты агонь. Знаходзь час для Пана Езуса – Ён для цябе яго знойдзе заўсёды. У мітусні дзён старайся адшукаць хаця б пару хвілін, каб застацца сам-насам з Панам Езусам. Размаўляй з Ім – сваімі словамі! Дзяліся сваімі поспехамі, перажываннямі, сумненнямі, засмучэннямі. Езус Хрыстус павінен стаць тваім лепшым Сябрам. З часам зразумееш, што гэта той Сябар, які не здрадзіць – Ён назаўсёды. І чым мацнейшыя адносіны ты з Ім выбудуеш, тым больш надзейную апору будзеш далей адчуваць у жыцці.

А жыццё няпростае... Будзе і горка, і салодка. Тут без падтрымкі наўрад ці абыдзешся. Памятай, Пан Езус у любы момант гатовы падаць руку дапамогі – трэба толькі звярнуцца да Яго ў патрэбе. Аднак не адчайвайся, калі Езус Хрыстус, як табе можа здацца, не адказвае на просьбу. Значыцца, у Яго для цябе ёсць іншы намер. І ні на кроплю не сумнявайся, што ён лепшы за тое, з чым зараз звяртаешся ў малітве.

Давярай Пану Езусу! Ён добра ведае, што і як для цябе лепей. Як ніхто іншы, адчувае цябе, клапоціцца і аберагае. Не забывайся штодня дзякаваць Яму за бацькоў, якіх для цябе выбраў, і за Анёла-ахоўніка, што табе спадарожнічае. Уся гэта “армія” штодня абараняе цябе ад нягод, каб магла жыць у шчасці.

А хочаш, я падзялюся з табой сакрэтам шчасця? Ён заключаецца ў тым, каб адказаць жыццём на Божае пакліканне. Усе мы да нечага пакліканы, у Бога для кожнага ёсць асабісты план. І нават пакуль ты яшчэ не нарадзілася, Бог ужо ведаў, якога колеру ў цябе будуць вочы і кім ты станеш, калі вырасцеш. Таму, каб доўга не блукаць па жыцці ў пошуках шчасця, не бойся пытацца ў Бога, што Ён для цябе падрыхтаваў. Ты можаш пачуць адказ не адразу. Ніколі не стамляйся задаваць гэтае пытанне! З часам заўважыш, як Бог паволі на яго адказвае...

Хачу даць табе невялікі наказ на далейшы шлях. Калі ў жыцці будзеш сумнявацца, як паступіць у пэўнай сітуацыі, рабі так, каб не было сорамна перад самой сабой. У тваёй душы хутка пасеціцца Пан Езус – трэба, каб там заўсёды было чыста, утульна. Не паддавайся спакусам! Часам няпроста адмовіць сабе ў чымсьці “забароненым” (напрыклад, адказаць злом на зло, калі цябе пакрыўдзілі), аднак трэба старацца. Павер, Бог даў людзям запаведзі з любові. Такім чынам Ён паклапаціўся аб нас. Інакш выбудаваў межы, парушаючы якія, чалавек ніколі не зможа асягнуць сапраўднае шчасце.

Жадаю табе шчырасці ў адносінах з Панам Езусам! Не стамляйся казаць, як моцна Яго любіш. Пану Езусу будзе прыемна, калі станеш выказваць сваю любоў праз бліжняга: словам, учынкам, малітвай. Найбольшы боль Ён адчуе, калі будзеш саромецца сваёй веры. Захоўвай яе, узбагачай і ганарыся! Яна – тваё найлепшае ўпрыгожанне. У ёй твая сіла і моц. У ёй заўсёды знойдзеш суцяшэнне.

“Ты толькі правядзі мяне,
Шлях мой Табе даяраю.
Ты толькі правядзі мяне,
Пане мой...”.

Я заўсёды побач.
З любоўю, твая хросная

---

З Богам праз штодзённасць

# “Прасіце, і будзе дадзена вам”

У разважаннях пра малітву мы ўсё яшчэ знаходзімся на яе парозе. Але хіба гэта не парог роднага дома, дзе нас чакае хтосьці вельмі блізкі? Магчыма, пасля доўгага перапынку ў практыцы малітвы вяртаемся да гэтага “парога”, як блудны сын, з апушчанай галавой? Сама ж сустрэча з Богам, як запэўнівае Езус, азначае прыняцце і прабачэнне. Нават калі цяжка адчуць гэта, варта, прынамсі, памятаць, што Бог нас чакае.

Кожны раз мы вяртаемся крыху іншымі, чым былі раней. З чым прыходзім, чаго прагнем, на што спадзяёмся? Выказваем гэта ў сваіх інтэнцыях, малітоўных намерах. Але і тут можна трапіць у крайнасць, а менавіта – паблажлівасць і апантанасць сваімі просьбамі.

Першая можа здарыцца па прычыне няўважлівасці, недахопу часу, як апраўданне, што “Бог і так усё ведае раней, чым я папрашу”. Сутнасць жа ў тым, што просьба да Бога – добра ўсвядомленая і не забытая намі – дасць магчымасць заўважыць і ўшанаваць гэты дар, інакш кажучы, адчуць канкрэтную, радасную, сардэчную ўдзячнасць, а таксама паверыць, што Бог прагне нашага шчасця і поўні жыцця. У будучым Ён дазволіць з большым даверам і спадзяваннем прасіць нават немагчымых з чалавечага пункту гледжання рэчаў.

Адносна другога крайняга падыходу магу падзяліцца ўласным досведам. Калісьці я думала, што трэба трымаць у галаве інтэнцыю на працягу ўсёй малітвы. Зараз гэта выглядае смешным, быццам Бог такі рассеяны, што можа імгненна пераключыцца з маёй праблемы на штосьці іншае, і таму Яму трэба няспынна нагадваць пра сябе. Але на самой справе ўсё наадварот. Малітва – гэта збавенны перанос увагі з сябе на Бога. Калі спярша я прыношу Яму сваю просьбу, інтэнцыю, падзяку, то ад гэтага моманту яна ў надзейным месцы, не згубіцца, не патоне ў моры “чужых” просьбаў. Можна – і трэба – выпусціць яе з рук, бо Пан хоча забраць мой цяжар. Не толькі прыгожы, як спеў праслаўлення, але і брудны, як грэх, з якім ідзём на споведзь. Калі ўсвядоміць гэтае “аддаю Табе”, Божае прыняцце, неабыякавасць, увагу, тады можна ўрэшце паслухаць Яго, а не толькі сябе: у Святым Пісанні, у разважаннях, у навучанні святара ў канфесіянале, які таксама стараецца слухаць Бога.

Што далей? Пошук унутранай цішыні, усведамленне Божай прысутнасці, прынясенне інтэнцыі становяцца спосабамі запавольвання хуткасці, з якой ляцім праз жыццё. Падчас малітвы сапраўды можам ехаць у аўтобусе ці ісці ў натоўпе – важнай з’яўляецца пастава сэрца.

Мы затрымліваемся ў засяроджанай малітве, каб любіць і праслаўляць Бога сваімі ўчынкамі. Але прыгледзімся, колькі “працы” выконваюць своечасовыя паўзы. Для гэтага трэба ўмець затрымлівацца, каб паразмаўляць з людзьмі, паглядзець з любоўю ў вочы свайму дзіцяці, каб зрабіць абдуманы, а не імпульсіўны выбар, каб падзякаваць, а таксама ўсвядоміць сваю памылку і знайсці спосаб выправіць яе, проста каб пабыць сам-насам з прыродай. Такія прыпынкі могуць падказаць нам, як рабіць паўзы падчас малітвы. Але можа стацца і наадварот: малітва навучыць нас лепш выкарыстоўваць іх у сваім жыцці.

Возьмем, напрыклад, нядзелю, якую касцёльная запаведзь наказвае шанаваць адпачынкам ад спраў і ўдзелам у св. Імшы. Пачынаючы ад першых раздзелаў Кнігі Быцця, у Бібліі сцвярджаецца важнасць дня, прысвечанага Пану. Як шмат глыбокіх і натхнёных разважанняў узбагачаюць наша разуменне сэнсу гэтага, па сутнасці, благаслаўлёнага прыпынку ў будзённай хадзе! Моманты цішыні ў цэлебрацыі св. Імшы пакліканы дапамагчы лепш перажыць удзел у Эўхарыстыі. Так акрамя самой падрыхтоўкі да св. Імшы кароткае маўчанне ёсць перад агульным вызнаннем грахоў, падчас адарацыі кансэкраванай Гостыі і віна, а таксама ў цішыні пасля св. Камуніі.

Вяртаючыся да індывідуальнай малітвы, цяжка абмінуць паўзы, якімі поўніцца малітва Святым Пісаннем, Ружанец, набажэнства Крыжовага шляху, рахунак сумлення і інш. Аднак пагаворым аб іх наступным разам, бо надыйшоў час зрабіць перапынак і ў гэтых разважаннях.

Напрыканцы хочацца падзяліцца адной мудрай уступнай малітвай у ігнацыянскім духу:

Адкрый маё сэрца, як пялёсткі кветкі;
з глыбіні я імкнуся да Цябе, Пане.
Няхай усё, чым я ёсць,
і ўсё, што я раблю,
праслаўляе Цябе.

Бутон распускаецца толькі пад сонечнымі, цёплымі промнямі. Спроба адкрыць пялёсткі можа толькі пашкодзіць кветцы. Гэты вобраз прыроды так нам блізкі, бо і нашае сэрца адгукаецца выключна на любоў. Калі кветка адкрываецца, можам убачыць яе нутро, яе сярэдзіну. Ці дазваляем Богу ўбачыць усё ў нашым сэрцы? Або, наадварот, сціскаемся ад адной думкі пра поўную адкрытасць Яго вачам? Можа, лічым, што лепей няхай глядзіць скрозь “пялёсткі”, стаіць за дзвярыма і не патрабуе зашмат? На самой справе, Бог і не будзе патрабаваць – гэта наша сэрца прагне Яго. Паспрабуем жа даць Божай любові магчымасць сагрэць нас.

Настаў вельмі адпаведны час, каб навучыцца ў майскіх кветак не толькі квітнець, але мець адвагу і пакору расцвісці там, дзе іх пасадзілі: пры дарозе, на клумбах – ці на пустцы, дзе выраслі зусім без догляду. Не чакаючы асаблівых умоў, яны адкрываюцца сонцу, усімі сіламі імкнуцца быць такімі, якімі іх задумаў Бог.

*Тэрэса Клімовіч*

---

## Слова для жыцця

**Папа Францішак**



*Як бы мы не імкнуліся жыць згодна з хрысціянскімі настаўленнямі, у жыцці заўсёды будзе штосьці, за што трэба будзе прасіць прабачэння. Падумаем пра дні, праведзеныя ў гультайстве, пра моманты, калі крыўда заняла наша сэрца і г. д. Гэта сітуацыі, на жаль, нярэдкія, якія прымушаюць усклікаць: “Пане, Ойча, адпусці нам правіны нашыя...”.*

*Невыпадкова, што Евангелле св. Мацвея адразу пасля таго, як дорыць тэкст малітвы “Ойча наш”, сярод 7-мі выкарыстаных выразаў падкрэслівае менавіта той, які тычыцца братэрскага прабачэння: “Калі вы будзеце адпускаць людзям правіны іхнія, то Айцец ваш Нябесны адпусціць і вам. А калі не будзеце адпускаць людзям, то і Айцец ваш не адпусціць вам правін вашых”.*

*Бог дорыць кожнаму хрысціяніну ласку пісання новай гісторыі дабра ў жыцці сваіх братоў, асабліва тых, якія зрабілі нешта прыкрае і памылковае. Праз слова, абдымкі, усмешку мы можам перадаць іншым тое, самае каштоўнае, што атрымалі. А што з’яўляецца тым самым каштоўным, што мы атрымалі? Прабачэнне, здольнасць адорваць прабачэннем таксама і іншых.*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 24.04.2019*

---

**Кс. бп Аляксандр Кашкевіч**



*Міласэрны Бог прагне паказаць сваю міласэрнасць усяму чалавецтву і ўсіх прывесці да збаўлення. Таму Ён выбраў маладую, простую манахіню Фаўстыну Кавальскую, каб прыгадала аб гэтым людзям. Яе часта называюць сакратаром ці паслом Божай міласэрнасці, падобна як яе духоўнага кіраўніка бл. Міхала Сапоцьку і шанавальніка Божай міласэрнасці св. Яна Паўла II. Дзякуючы гэтым вялікім людзям праўда пра Бога, шчодрага на міласэрнасць, у наш час нібы заяснела новым бляскам і нанова прамовіла да сэрцаў мільёнаў людзей ва ўсім свеце.*

*Сама па сабе праўда веры аб Божай міласэрнасці не з’яўляецца чымсьці новым – яна была аб’яўлена на старонках Святога Пісання, у гісторыі выбранага народа, а асабліва ў асобе і ўчынках Сына Божага Езуса Хрыста. [...] Магчыма, аб’яўленні с. Фаўстыне былі своеасаблівай духоўнай падрыхтоўкай чалавецтва да зверстваў XX стагоддзя, каб чалавек не згубіўся канчаткова на прасторах зла, не ўсумніўся ў Богу, які з’яўляецца Айцом міласэрнасці, не дазволіў, каб грэх і нянавісць перамаглі ў яго душы.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай у Нядзелю Божай Міласэрнасці ў касцёле св. Міхала Арханёла ў Ашмянах, 28.04.2019*



*◆ У велікодны панядзелак у Ілукстэ (Латвія) была ўстаноўлена скульптура "Regina Terrae Marianae" ("Царыца Марыйнай Зямлі"). Аўтар бронзавай скульптуры – мастак Талівальд Музыкант. Фігуру ўсталявалі ў гарадскім скверы па ініцыятыве мясцовага самакіравання. На цырымоніі асвячэння прысутнічалі 3 каталіцкія біскупы, у тым ліку арцыбіскуп Збігнеў Станкевіч з Рыгі. З урачыстай нагоды прысутны мэр горада Стэфанс Разна адзначыў, што "Латвія ўжо больш за 800 гадоў з'яўляецца зямлёй Марыі".*

*◆ У санктуарыі Божай Міласэрнасці ў Лагеўніках (Польшча) паўстала Дарога міласэрнасці. Яна вядзе галерэяй ад Душпастырскага дома да базілікі. Новаўвядзеннем з'яўляюцца відэа-ролікі, дададзеныя да кожнай з 21 стацый. Можна іх праглядзець, скануючы змешчаныя на табліцах QR-коды. З часам, калі скончацца працы, звязаныя з будаўніцтвам трасы, Дарога міласэрнасці аб'яднае 2 санктуарыі: Божай Міласэрнасці і св. Яна Паўла II.*

*◆ Вядомая абаронца жыцця Мэры Вагнэр была арыштавана на тэрыторыі абартыўнай клінікі "Everywoman's Health Center w Vancouver" (Канада). Яна раздавала там ружы з копіяй цудатворнага медаліка і кароткім зваротам да маці. Спрабавала таксама размаўляць з жанчынамі, якія чакалі ў клініцы, і прапанаваць ім альтэрнатыву аборту. Апошнім разам спадарыня Вагнэр была затрымана паліцыяй, сілай выведзена і пасаджана ў турму. Яе абвінавацілі ў перашкаджэнні карыстанню маёмасцю ў адпаведнасці з прызначэннем і пакінулі пад арыштам. Жанчына адмовілася выйсці пад заклад і абяцанне, што не будзе наближацца да абартарыяў.*

*◆ У мінулым годзе ў свеце загінулі больш за 4 300 хрысціян. Больш за 1 800 святынь былі знішчаны ці, па меншай меры, падвяргаліся атакам. На сёння каля 327 мільёнаў вызнаўцаў Хрыста жыве ў краінах, дзе адбываецца праследаванне ці дыскрымінацыя на рэлігійным фоне. 61% насельніцтва свету існуе ва ўмовах, якія робяць немагчымым поўнасцю свабоднае выражэнне сваёй веры. За большасцю выпадкаў ламання свабоды стаяць ісламскі радыкалізм, аўтарытарныя краіны і крайні нацыяналізм. Даныя прадстаўлены аддзелам папскага фонду "Дапамога Касцёлу ў патрэбе".*

*◆ Украінская Грэка-каталіцкая Царква распрацавала мабільны дадатак, у якім змяшчаецца кантактная інфармацыя аб парафіях і дзейсных супольнасцях у краіне і за мяжой. У ім даступна функцыя ўніверсальнага пошуку па асноўных характарыстыках. Можна выбіраць пэўныя парафіі або супольнасці і атрымліваць апавяшчэнні аб абнаўленні інфармацыі пра іх. Дадатак бясплатны і ўжо даступны для загрузкі на платформах iOS і Android.*

*credo.pro; wiara.pl; niedziela.pl*

# МАРЫЯ ПРЫКЛАДАМ ДЛЯ МАЦІ

● *працяг са с. 1*



### ДАВЕР ЗАЎСЁДЫ СПРАЎДЖВАЕЦЦА

Шматдзетная мама Эльвіра Праўко, якая гадуе 2-ух сыноў і 2-ух дачок, прызнаецца, што вялікая сям'я патрабуе цярплівасці, якой, здараецца, не хапае. ***"У такіх выпадках накіроўваюся за дапамогай да Маці Божай,*** – гаворыць жанчына. – ***Да Марыі звярталася і кожны раз, калі насіла пад сэрцам дзіця. Яна як Маці Езуса разумее ўсе складанасці цяжарнасці і не марудзіць з падтрымкай".***

Асаблівая дапамога спатрэбілася жанчыне, калі яна ў 3-ці раз рыхтавалася стаць маці. Доктар, правёўшы ультрагукавое даследаванне, заўважыў пэўнае адхіленне ад нормы ў развіцці плода і раіў не нараджаць. Спадарыня Эльвіра не пагадзілася з гэтым і працягвала маліцца аб шчаслівым нараджэнні дзіцяці. ***"Я веру, што з нябеснай дапамогай кожная сітуацыя можа выйсці на лепшае. Сын Паша сапраўды нарадзіўся з «анамаліяй» – ён гіперактыўны. Некаторыя праблемы са здароўем не дазваляюць яму сур'ёзна заняцца спортам, каб пазбаўляцца назапашанай энергіі, аднак мы знайшлі для яго іншы шлях –*** цяпер ён ***«рве» баян,*** – адзначае з усмешкай жанчына. – ***Нядаўна заняў другое месца ў абласным музычным конкурсе".***

Іншыя дзеці таксама адрозніваюцца талентамі: старэйшая Марыя малюе, сярэдні Юра спявае і грае на скрыпцы, а маленькая Аліса задзейнічана ў аркестры дзіцячага садка.

### СТВАРАЮЧЫ АТМАСФЕРУ ДУХОЎНАГА ЎЗРАСТАННЯ

Прыязджаючы ў маі



на вёску да бабулі, дзяўчаты і хлопцы ўжо традыцыйна збіраюць кветкі ў гародзе і ставяць каля абраза Марыі, моляцца Ларэтанскай літаніяй. ***"Калі я адгаворваю Ружанец, дзеці самі да мяне далучаюцца. І паступова малітва пераходзіць у спеў – Юра кожны раз прапануе спяваць «Вітай, Марыя»",*** – адзначае маці. Дадае, што яны заўсёды разам чытаюць біблійныя аповеды, а перад сном усе атрымліваюць ад яе блаславенне крыжыкам на лбе. Падчас посту дзеці бяруць пастановы, а на святы любяць удзельнічаць ва ўрачыстых працэсіях.

Спадарыня Эльвіра перакананa, што практыка веры прыносіць свой плён. Як і ў кожнай сям'і, дзеці сварацца паміж сабой, часам абражаюць бацькоў, але пры гэтым заўсёды ўсведамляюць дрэнныя ўчынкі. Ніколі не чакаюць з тым, каб папрасіць прабачэння ў мамы з татам ці адзін у аднаго.

***"Я бачу, што, нягледзячы на ўзрост, кожны з іх усталяваў асабісты кантакт з Усявышнім. Хлопчыкі перад музычнымі конкурсамі заўсёды просяць аб Божай дапамозе. Марыя з вільготнымі вачыма моліцца перад Найсвяцейшым Сакрамантам – давярае Богу ўсе свае падлеткавыя перажыванні",*** – распавядае жанчына.

Шматдзетная маці ўпэўнена, што каб выхаваць у дзецях хрысціянскія каштоўнасці, неабходна ў першую чаргу самой узрастаць і развівацца ў веры. Будучы падлеткам спадарыня Эльвіра прымала ўдзел у рэкалекцыях. Пасталеўшы, скончыла катэхетычны каледж. Сёння, маючы працоўныя і хатнія абавязкі, жанчына заўсёды знаходзіць час, каб пазнаць штосьці новае і ўмацавацца духоўна. ***"Нядаўна пачала наведваць семінар «Новае жыццё». Молімся праз заступніцтва Маці Божай аб патрэбных дарах і абнаўленні ў Святым Духу. Падчас сустрэч чытаем Святое Пісанне, разважаем, запісваем свае думкі, а пасля ў групах усё дэтальна абмяркоўваем. У Бібліі ёсць адказ на любую жыццёвую сітуацыю, таму варта не пераставаць яе спасцігаць",*** – сцвярджае жанчына.





### ПРАЗ МАРЫЮ БУДАВАЦЬ ЖЫЦЦЁ ПАВОДЛЕ ВОЛІ ГОСПАДА

Да замужжа родныя спадарыні Эльвіры і знаёмыя манахіні прадракалі ёй жыццё ў кляштары. І сама мела такія думкі. Вырашыла па прыкладзе Марыі прыняць Божую волю, якой бы яна ні была.

Неўзабаве спаткала хлопца, з якім захацела стварыць сям'ю. Жанчына прызнаецца, што яны з мужам не рабілі ўстаноўку стаць шматдзетнай сям'ёй, а проста ставіліся да кожнай чарговай радаснай навіны аб цяжарнасці як да бясцэннага дару.

***"Памятаю, як у дзяцінстве заслухоўвалася гісторыяй пра Маці Божую і трох маленькіх пастушкоў з Фацімы. Так супала, што я таксама будучы дзіцём пасвіла кароў. Часта, знаходзячыся на пашы, малілася Ружанец з думкай пра тое, што і мне хацелася б даведчыць які-небудзь цуд. І моцна прасіла аб гэтым Марыю. Ужо цяпер на дарослы розум усведамляю, што Найсвяцейшая Маці мяне выслухала, і цудаў у маім жыцці ажно чатыры",*** – падсумоўвае спадарыня Эльвіра.

*Ангеліна Марцішэўская*

# МАЙСТАР, ПАЦАЛАВАНЫ БОГАМ



*Працы разьбяра Мікалая Скляра, які жыве і творыць у горадзе над Нёманам, зачароўваюць самабытнасцю і прыгажосцю. Імі захапляюцца не толькі аматары драўляных скульптур, але і простыя абывацелі, якім хоць аднойчы пашчасціла судакрануцца з мастацтвам, што нараджаецца з дрэва. У руках майстра грубыя калоды ператвараюцца ў шэдэўры і пасля ўпрыгожваюць падворкі, маёнткі, гарадскія вуліцы і прыкасцёльныя тэрыторыі.*

## РАЗЬБА ПА ДРЭВЕ ЯК ЛАД ЖЫЦЦЯ

Кажуць, што прафесію разьбяра па дрэве могуць асвоіць толькі тыя людзі, якія надзелены асаблівым талентам, бо толькі ім пад сілу зрабіць са звычайнай драўлянай чуркі сапраўдны твор мастацтва, які адлюстроўвае прыгажосць навакольнага свету. Пытаюся ў спадара Мікалая, ці згодны ён з гэтымі словамі. Майстар задуменна ўглядаецца ў веснавое неба і пачынае разважаць. ***"Разьба па дрэве, напэўна, не столькі прафесія, колькі стан душы, а для кагосьці, магчыма, і сэнс жыцця. Я пачаў майстраваць яшчэ ў школе. Пасля спасціг асновы працы з дрэвам, стаў займацца разьбой і да гэтага рамяства, а далей – практыка".***

На маё чарговае пытанне аб тым, чаму і калі з'явілася любоў да творчасці, суразмоўца паціскае плячыма і з усмешкай тлумачыць, што творчасць – даволі складанае паняцце, таму назваць нейкую канкрэтную дату ці прычыну цяжка. ***"Увогуле, стаць на творчы шлях – гэта як палюбіць чалавека,*** – адзначае разьбяр. – ***Калі ты кахаеш асобу, то табе падабаецца ў ёй усё: як размаўляе, як усміхаецца, як сядае ў крэсла і г. д. А калі нехта фармулюе канкрэтны адказ кшталту «я люблю чалавека за курносы нос, прыгожыя валасы», то гэта гучыць як абсурд. Калі ты кахаеш, то кахаеш абсалютна за ўсё. Так і*** тонкасцях прафесіі, спадар Мікалай акцэнтуе ўвагу на тым, што з дрэвам не трэба "дамаўляцца", яго трэба любіць, тады яно адкажа ўзаемнасцю. А калі падыходзіць да матэрыяла, з якім працуеш, па-хамску і выключна па-спажывецку, ён будзе супраціўляцца.

***"Людзі захапляюцца, калі назіраюць за працай разьбяра, які працуе з жывым, пахучым матэрыялам. Гэта сапраўды цікавая праца, але і няпростая, якая патрабуе шмат ведаў, уменняў і, абавязкова, творчага натхнення,*** – распавядае майстар. – ***Кожны твор – гэта заўсёды новы сэнс, новы подых, новае жыццё. Спачатку трэба ўявіць, што канкрэтна хочаш выразаць, пасля ўжо не змог спыніцца,*** – распавядае спадар Мікалай. – ***Канешне, у творчай прафесіі вялікае значэнне маюць прыродныя здольнасці, але на адным таленце далёка не заедзеш. Не трэба забывацца і пра карпатлівую працу, без якой немагчыма развіццё і самаўдасканаленне. Таксама павінна быць велізарнае жаданне, цяга з творчасцю – калі пачаў, то паступова акунаешся ў гэтую стыхію цалкам".***







Распавядаючы аб ***ўсё дэтальна прадумаць і толькі тады пачынаць увасабляць сваю задуму. Але і тут не ўсё проста і гладка. Перад разьбяром стаіць сур'ёзная задача: пры дапамозе інструмента ажывіць кавалак дрэва, надзяліць яго характарам і індывідуальнасцю, удыхнуць жыццё. Пры гэтым не забывацца, што адным непрадбачаным рухам можна ўсё сапсаваць".***

## ДРЭВА АЖЫВАЕ

Мікалай Скляр гаворыць, што ў яго майстэрні рэдка калі гасне святло, а гук бензапілы, стук сякеры і іншых інструментаў сталі для суседзяў звыклым фонам. Ды і сам ён ужо не ўяўляе свайго жыцця без працы з дрэвам. ***"Гэта як для звычайнага чалавека дыхаць ці есці",*** – адзначае майстар.

Пазнаёміўшыся з працамі спадара Мікалая, звяртаю ўвагу на тое, што ўсе яны зроблены з розных парод дрэва. Таму пытаюся, якім чынам адбываецца падбор матэрыялу і ці ёсць у майстра "фаварыты". ***"У ход можа пайсці любое дрэва: старое, сухое альбо толькі што спілаванае, з сучкамі, шчарбінкамі, паедзенае шкоднікамі альбо некранутае доўгімі гадамі,*** – адказвае разьбяр. – ***Варта зірнуць на матэрыял – і адразу разумееш, што з яго атрымаецца, а што – не. І, канешне, усё залежыць ад ідэі і задач, якія ставіць перад сабой майстар".***

Спадар Мікалай гаворыць, што для вулічных скульптур найбольш падыходзіць дуб. Драўніна гэтага цвёрдага і прыгожага дрэва менш за ўсё трэскаецца. А можна таксама разьбярыць з таполі, сасны, бука, граба. Што да прац, якія будуць упрыгожваць інтэр'ер, то яны пераважна выконваюцца з ліпы. Гэта вельмі мяккі і падатлівы матэрыял, які можна затаніраваць у патрэбны колер. Словам, у любога дрэва ёсць сваё прызначэнне і перавагі.

## САКРАЛЬНАЕ МАСТАЦТВА

Тэматыка драўляных скульптур Мікалая Скляра надзвычай шырокая: казачныя персанажы, міфалагічныя істоты, гістарычныя постаці, касцы, жнеі, музыкі, жывёлы, птушкі... Усе яны выкананы ў розных маштабах: ад мініяцюр да прац у чалавечы рост ці нават вышэй.

Варта адзначыць, што своеасаблівай візіткай майстра сталі анёлы, якіх з-пад яго рук выйшаў не адзін дзясятак. Кожны з іх – адзіны і непаўторны ў сваім родзе. Першы ўсміхаецца, другі смуткуе, трэці сарамліва адводзіць вочы ўбок, чацвёрты ўзнімае крыж, пяты застыў у малітве. А вось, склаўшы крылы, на жэрдачцы сядзяць яшчэ некалькі анёлаў, зусім як птушкі на галінцы перад адлётам у цёплыя краіны. Скульптура так і называецца – "У вырай".

***"Людзі ўсе розныя, дык чаму анёлы павінны быць аднолькавыя?*** – задаецца пытаннем аўтар. – ***Часам у іх вачах можна прачытаць пэўныя эмоцыі. Але вельмі часта я твар толькі абазначаю. Памятаю, на адной з выстаў да мяне падышла жанчына і сказала: «Як добра, што ў вашых анёлаў няма выразу твару. Я магу сама сабе яго прыдумаць». Вось чалавек купіў сабе такога анёлка і пасля прадстаўляе яго такім, якім яму хочацца, становячыся такім чынам нібы саааўтарам працы".***

Калі гаварыць пра іншыя сакральныя скульптуры аўтарства спадара Мікалая, то нельга не ўзгадаць фігуру і бюст св. Яна Паўла II, Маці Божую Балесную, Езуса Журботнага, Распяцце, а таксама фігуры Трох Каралёў, св. Юзафа і Марыі з нованароджаным Хрыстом.

Гледзячы на гэтыя працы, разумееш, што ў таленавітых руках майстра дрэва можа не толькі ператварыцца ў прыгожую, густоўную рэч, але напоўніцца сэнсам, пачаць дыхаць, а нават стаць святым.

*Кінга Красіцкая*







### *Патрабуюцца неабыякавыя маладзёны!*

***Для падрыхтоўкі і правядзення малітоўнай сустрэчы моладзі ў Іўянцы (Мінска-Магілёўская архідыяцэзія) ствараецца аргкамітэт і каманда аніматараў, далучыцца да якой запрашаюцца ахвотныя юнакі і дзяўчаты ад 16-ці гадоў.***

*Жадаючым неабходна прайсці рэгістрацыю праз інтэрнэт. Па ўсіх пытаннях можна звяртацца па нумары: (8 029) 357-15-86 – кс. Андрэй Бурак.*

*Дыяцэзіяльныя дні моладзі ў Іўянцы пройдуць 26–28 ліпеня на тэму "Рэха Сіноду: Моладзь. Вера. Пакліканне".*




### *"Эстафета для надзеі"*

***Пад такой назвай у Ватыкане завяршыўся 4-дзённы дабрачынны марафон, які стартаваў у Падуі (Італія).***

*Удзельнікі забегу пераадолелі больш за 500 кіламетраў для таго, каб прыцягнуць увагу грамадскасці да навуковых даследаванняў у галіне медыцыны, а ў прыватнасці, па такіх цяжкіх дзіцячых хваробах, як лейкамія, пухліны і інш.*

*Марафон арганізаваны фондам "Горад надзеі". Ідэя яго правядзення належыць дзядулі 4-гадовага хлопчыка, якога вылечылі ад цяжкага захворвання.*




### *Якая прычына пажару ў Нотр-Даме?*

***Занадта позняе паведамленне ў пажарную службу, паленне цыгарэт рабочымі на лясах вакол шпіля, электрычныя кабелі праз гарышча да званоў – некаторыя з версій расследавання па справе ўзгарання ў саборы Парыжскай Божай Маці.***

*Французскія СМІ, што абмяркоўваюць магчымыя прычыны пажару, які ахапіў святыню 15 красавіка бягучага года, выказваюць меркаванні, што няшчасце адбылося з-за серыі чалавечых памылак і безразважных рашэнняў. Аказалася, што пажарных выклікалі толькі праз 35 хвілін пасля першага сігналу супрацьпажарнай бяспекі. Таксама на месцы здарэння паліцэйскія знайшлі 7 недакуркаў. Акрамя таго, указваецца на слабую ахову катэдры. Устаноўлена, што на гарышчы ляжалі электрычныя кабелі, якімі ўключаліся званы ў шпілі. Кароткае замыканне ў іх магло выклікаць пажар. На сёння апошняя версія з'яўляецца найбольш верагоднай.*

# Каляндар падзей

***5 мая***
*Дыяцэзіяльны дзень маці. Молімся ў інтэнцыі жывых і памерлых мам.*

***6 мая***
*Свята свсв. апосталаў Філіпа і Якуба.*

***8 мая***
*Успамін св. Станіслава, біскупа і мучаніка.*

***9 мая***
*Дзень малітвы за ахвяр II Сусветнай вайны і мір ва ўсім свеце.*

***14 мая***
*Свята св. апостала Мацвея.*

***16 мая***
*Успамін св. Андрэя Баболі, прэзбітэра і мучаніка.*

# Ружанцовыя інтэнцыі

***Май***
*Аб Божым благаслаўленні і апостальскай стараннасці ў кіраванні дыяцэзіяй для Пастыраў Гродзенскага Касцёла. Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

# Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Асвятленне падзей з жыцця Касцёла на Гродзеншчыне. Даступны фота- і відэаматэрыялы.*

## НАВІНЫ



# КЛІМАТ СВЯТ УВАСКРАСЕННЯ ПАНА

Сярод вернікаў надалей пануе атмасфера пасхальных урачыстасцей. У Сапоцкіне адбылося велікоднае прадстаўленне "Будзьма вучнямі Хрыста", у Смаргоні – канцэрт пад назвай "Бог не памёр". Па-сапраўднаму радасны настрой, Божы аптымізм і гукі рэлігійных спеваў далі непаўторнае сведчанне аб тым, што наш Пан жывы! Ён уваскрос!

Падчас Велікоднай актавы ва ўсіх парафіях дыяцэзіі адпраўлялася навэнна з нагоды надыходзячага свята Божай Міласэрнасці, якое адзначаецца ў першую нядзелю пасля Вялікадня. Кожны дзень, молячыся Вяночкам да Божай міласэрнасці, вернікі прасілі Усемагутнага, каб аказаў ім і ўсяму свету сваю міласэрнасць і ласку.

З нагоды свята ў катэдральнай базіліцы св. Францішка Ксаверыя ў Гродне ўжо традыцыйна адбылося начное чуванне. Малітоўную сустрэчу правялі вернікі з усіх парафій горада. У Нядзелю Божай Міласэрнасці дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі адправіў св. Імшу ў санктуарыі Божай Міласэрнасці ў Воранаве (дэканат Радунь). На малітве сабраліся парафіяне, а таксама пілігрымы, якія прыбылі з розных куткоў дэканата і суседняй Літвы. Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч цэлебраваў урачыстую св. Імшу ў касцёле св. Міхала Арханёла ў Ашмянах. Як і штогод, вернікі з касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча ў Сапоцкіне здзейснілі пілігрымку ў парафіяльную капліцу ў Свяцку, каб памаліцца перад абразом "Езу, давяраю Табе".

## БІСКУПСКІЯ ВІЗІТЫ



Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч наведаў парафіяльную святыню св. Юрыя ў Варнянах (дэканат Астравец) з нагоды 250-годдзя яе кансэкрацыі. Падчас св. Імшы падзякі за дар касцёла іерарх удзяліў групе вернікаў сакрамант канфірмацыі.

У вігілію свята Божай Міласэрнасці ардынарый наведаў парафіяльную супольнасць св. Міхала Арханёла ў Навагрудку. Падчас св. Імшы групе маладых людзей быў удзелены сакрамант хрысціянскай сталасці. У межах паездкі іерарх таксама наведаў будоўлю новай святыні ў Любчы (дэканат Навагрудак), якая будзе асвечана ў канцы чэрвеня.

Сакрамант канфірмацыі з рук біскупа прынялі вернікі парафій св. Міхала Арханёла ў Ашмянах, Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне, св. Юзафа Рамесніка ў Скідзелі (дэканат Гродна-Усход).

## ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



У сценах Гродзенскай ВДС на 2-ой агульнабеларускай сустрэчы семінарыстаў сабраліся навучэнцы і выхаваўцы каталіцкіх духоўных семінарый з Пінска і Мінска. План мерапрыемства прадугледжваў супольны ўдзел у Эўхарыстыі, спартыўныя спаборніцтвы, а таксама культурную праграму. Падобныя інтэграцыйныя сустрэчы спрыяюць блізкаму знаёмству паміж семінарыстамі, а таксама прыносяць добры плён у будучым супрацоўніцтве святароў.

## АДНЫМ РАДКОМ



• Малітва за ахвяр тэрактаў у Шры-Ланцы была арганізавана ў Гродне. • У дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях (дэканат Радунь) прайшлі 3-дзённыя рэкалекцыі для святароў. • У межах X Аўтапрабегу "Нэкля–Мінск" калона з 28-мі легендарных аўто праехала па вуліцах Гродна і затрымалася пры пабрыгіцкім кляштары. • Завяршальнае мерапрыемства праекта "Дзеці ў інтэрнэце", арганізаванага Нацыянальным "Карытас", адбылося ў араторыі св. Яна Боско пры парафіі св. Міхала Арханёла ў Смаргоні. • Валанцёры Дыяцэзіяльнага дня дзіцяці распачалі падрыхтоўку да свята, якое пройдзе ў Гродне 1 чэрвеня. • Дзень засяроджання для святароў і манаскіх сясцёр, якія служаць у дыяцэзіі, адбудзецца ў Гродне.

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

# У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**7 мая 1944 г.** – кс. Яраслаў Войдаг, *проб. Ліпнішкі;*
**7 мая 1996 г.** – кс. інфулат Станіслаў Кучынскі, *рэктар ВДС, ген. вік. Гродна;*
**12 мая 1977 г.** – кс. Кляменс Півавярун, *проб. Васілішкі;*
**13 мая 1948 г.** – кс. Валяр'ян Голяк, *проб. Ашмяны;*
**18 мая 1987 г.** – кс. прэлат Казімір Арлоўскі, *проб. Адамавічы.*

## АНОНСЫ

# ПАРАФІЯ Ў КАРОБЧЫЦАХ ЗАПРАШАЕ НА АЎТОБУСНУЮ ПІЛІГРЫМКУ Ў ПОЛЬШЧУ

**Выезд, арганізаваны парафіяй св. Максімільяна Кольбэ і св. Станіслава, біскупа, адбудзецца 16–19 мая.**

Удзельнікі наведаюць Каліш, Вроцлаў, Чанстахову, прымуць удзел у св. Імшы ў санктуарыі св. Юзафа і ў капліцы цудоўнага абраза Маці Божай Яснагорскай.

*Запісацца і атрымаць больш падрабязную інфармацыю можна па тэлефонах: (8 0152) 67-47-24, (8 029) 583-07-02, (8 029) 887-10-24.*

# IX ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫ ДЗЕНЬ ДЗІЦЯЦІ ПРОЙДЗЕ Ў ГРОДНЕ

**Мерапрыемства адбудзецца 1 чэрвеня на тэрыторыі парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (мікраёраён Паўднёвы) пад дэвізам "Сям'я – дом любові".**

Арганізатары рыхтуюць цікавую насычаную праграму (забавы, гульні, конкурсы), а найперш малітву, Эўхарыстыю, якую ўзначаліць біскуп. Да распрацоўкі плана сустрэчы заахвочваюцца ўсе жадаючыя. Тым, хто хацеў бы прадставіць тэатральную сцэнку, спеў на сцэне або мае іншыя прапановы, якія маглі б узбагаціць мерапрыемства, прапануецца папярэдне скантактавацца з арганізатарамі.
На сустрэчу запрашаюцца дзеці з Гродзенскай дыяцэзіі, а таксама з іншых куткоў Беларусі, каб разам у малітве і забаве добра правесці час. Колькасць удзельнікаў не абмежавана. Арганізатары забяспечваюць кожнага харчаваннем на працягу дня.

*Аб сваім удзеле неабходна паведаміць да 26 мая кс. Юрыю Марціновічу, арганізатару і адказнаму за Дыяцэзіяльны дзень дзіцяці, на e-mail sakralna@op.pl або па тэлефоне (8 029) 784-05-72.*

# XI ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАЯ ПАРАФІЯДА ДЗЯЦЕЙ І МОЛАДЗІ АДБУДЗЕЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Дэвіз сёлетняга мерапрыемства – "Сям'я – дарога Касцёла".**

Парафіяда будзе праходзіць 11–14 чэрвеня ў парафіях Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (Гродна-Паўднёвы), Найсвяцейшага Адкупіцеля (Гродна-Дзевятоўка) і на стадыёне ЦСК "Нёман". Арганізатары забяспечваюць удзельнікам харчаванне і пражыванне, выхаваўча-рэлігійную, культурную і спартыўную праграму.
Да ўдзелу запрашаюцца дзеці і моладзь ва ўзросце ад 10-ці да 19-ці гадоў з усёй Беларусі. Максімальная колькасць удзельнікаў ад адной парафіі – 15 чалавек + 1 апякун (можа быць і меншая група).

*Пацвердзіць удзел у Парафіядзе неабходна да 1 чэрвеня па тэлефонах: (8 033) 624-35-22, (8 029) 319-54-65 – кс. Артур Малафей.*

# ПАРАФІЯ Ў ВАЎКАВЫСКУ АРГАНІЗУЕ ПІЛІГРЫМКУ Ў МЕДЖУГОР'Е

У межах паломніцтва, якое пройдзе 19–25 жніўня, плануецца наведванне Будапешта (Венгрыя) і Мастары (Боснія і Герцагавіна). На зваротным шляху – адведванне Дуброўніка і Спліта (Харватыя).

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць у кс. каноніка Алега Дуля, пробашча парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску, па тэлефоне: (8 029) 313-65-64.*

# ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

У рэдакцыі газеты "Слова Жыцця" з'явіўся дадатковы, мабільны нумар тэлефона:

**(8 029) 571-30-77 (МТС).**

*Разам з гэтым з'явілася магчымасць дасылаць паведамленні праз СМС або Viber. Просьба звязвацца з рэдакцыяй у гадзінах: 09.00–17.00.*

# Ад шчырага сэрца

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**

з нагоды Імянін перасылаем найлепшыя пажаданні: здароўя, сілы, радасці, Божай дапамогі ва ўсіх душпастырскіх справах, а таксама апекі Найсвяцейшай Маці і шчодрых дароў Святога Духа.

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзу Арцыбіскупу Тадэвушу Кандрусевічу, Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу, Юзафу Станеўскаму, Антонію Дзям'янку, паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Кучынскаму, Паўлу Безляповічу, Аляксандру Сямінскаму, Аляксандру Мацкевічу, Алегу Канановічу, Андрэю Каўшуку, Анджэю Ганчару, Руслану Мазану, Віталію Дабраловічу, Айцу Казіміру Жылісу, а таксама ўсім Святарам і Сёстрам Гродзенскай дыяцэзіі, Рэктару і Клерыкам Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем шчасця на кожны дзень, шмат зычлівых сэрцаў, гатовых дапамагчы абвяшчаць Добрую Навіну. Няхай Найвышэйшы Святар заўжды благаславіць Вас у апостальскай дзейнасці ды будзе крыніцай радасці і спаўнення мар, а Панна Марыя няспынна Вамі апекуецца.

*Апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**

з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай дарога, якой Вы штодзённа крочыце, будзе шчаслівай і благаслаўлёнай, здароўе – моцным, а радасць – нязгаснай. Няхай Маці Божая няспынна апекуецца, а Божы Провід чувае над Вамі.

*Генеральная настаяцельніца Сясцёр дапаможніц чыстцовым душам Ірына Златкоўская*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**

з нагоды Велікодных свят і Імянін жадаем апекі Маці Божай і дароў Святога Духа. Няхай добры Бог асвячае Ваш жыццёвы шлях, умацоўвае розум і сэрца, каб словы, якія выходзяць з Вашых вуснаў, станавіліся моцай для нашай веры. Няхай Цела і Кроў Збаўцы моцна з'ядноўваюць Вас з Богам, а нашы малітвы будуць падтрымкай у рэалізацыі ўсіх Вашых планаў.

*Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу, Юзафу Станеўскаму і Антонію Дзям'янку, паважаным Ксяндзам Пробашчу Віталію Цыбульскаму і Юрыю Жэгарыну, усім Святарам і Сёстрам, якія працавалі ў нашай святыні,**

з нагоды Вялікага чацвярга і Велікодных свят жадаем моцнага здароўя і сіл на кожны дзень. Няхай вера, надзея і любоў ніколі не згаснуць у Вашых сэрцах, Езус Хрыстус адорвае ласкамі і моцай, Панна Марыя ахінае мацярынскай апекай, а Святы Дух асвячае жыццёвы шлях. Дзякуем за цудоўны прыклад веры і набожнасці, мудрыя словы, цярплівасць, клопат пра людзей і чулыя сэрцы.

*Парафіяне з касцёла св. Казіміра ва Усялюбе*

**Паважанаму Айцу Віталію Юркевічу**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог, якому Вы даверыліся, благаслаўляе кожны дзень святарскай паслугі, а Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай заўсёды і ўсюды. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам са Слоніма*

**Паважанаму Ксяндзу Мар'яну Хаменю**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, шмат сіл, радасці і прыгожага плёну на Божай ніве. Няхай Пан Езус адорыць Вас сваім благаслаўленнем і любоўю, а Маці Божая прытуліць да сэрца.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Шылавічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валянціну Хведуку**

з нагоды Дня нараджэння і Велікодных свят сардэчна жадаем усіх Божых ласкаў на доўгія гады. Няхай Хрыстос з любоўю прытуліць Вас да свайго сэрца за тое, што абвяшчаеце нам Яго навуку і прабачаеце ад Яго імя. Дзякуем за адданую службу Богу і людзям, за добрае сэрца, любоў і цярплівасць.

*Парафіяне з Моцевічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Захарэўскаму**

з нагоды Дня святара, Велікодных свят і Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Святы Дух заўсёды асвячае Ваш шлях, уваскрослы Езус адорвае моцным здароўем і напаўняе супакоем, а Маці Божая атуляе мацярынскай любоўю і апекай. Доўгіх, шчаслівых святарскіх гадоў і зычлівых людзей побач.

*Вернікі з Моцевічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Генрыху Яблоньскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем шмат сіл, цярплівасці, непахіснай надзеі, нязгаснага запалу ў працы, а перш за ўсё – шчодрых ласкаў ад уваскрослага Хрыста.

*Парафіяне з Забалаці*

**Паважанаму Ксяндзу Яцэку Маркелю**

з нагоды Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай кожны дзень будзе напоўнены святлом, радасцю і надзеяй. Няхай рэалізуюцца ўсе планы, уваскрослы Хрыстос шчодра благаслаўляе, а Найсвяцейшая Маці вядзе шчаслівым шляхам.

*Былыя парафіяне з Зэльвы: сем'і Трубей і Раманчук*

**Паважаным Ксяндзу Аляксандру Баклажцу, Сёстрам Марыне Сакач, Аўгусціне Белагрывай, Дароце Белагрывай і Аляксандры Сташкевіч**

з нагоды Велікодных свят жадаем шмат радасці, шчодрых Божых ласкаў і супакою. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя прытуляе Вас да свайго сэрца і дапамагае ў цяжкія хвіліны жыцця.

*Сям'я Доўкша з Вейшычаў*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Гедройцю**

з нагоды свят Уваскрасення Пана складаем сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў, благаслаўлення і толькі радасных хвілін. Няхай уваскрослы Езус Хрыстус будзе правадніком на ўсіх жыццёвых шляхах, а Найсвяцейшая Маці суцяшае і адорвае супакоем.

*Вернікі з парафіі Галынка*

**Паважаным Ксяндзам Чэславу Паўлюкевічу, Дзмітрыю Папенюку, Андрэю Радзевічу і ўсім Рэкалекцыяністам, якія служылі ў нашай парафіі,**

з нагоды Вялікага чацвярга складаем сардэчныя пажаданні. Дзякуем Хрысту за тое, што ўключыў Вас у сваё святарства, учыніў цэлебрантамі Эўхарыстыі і Божага прабачэння, слугамі Народа Новага Запавету. Няхай Дух Суцяшыцель будзе з Вамі праз свае святыя дары, а Панна Марыя дапамога аднавіць і захаваць першапачатковую любоў да Бога і Касцёла, якой былі напоўнены Вашы сэрцы ў дзень пасвячэння.

*Парафіяне з Росі*

**Паважаны Ксёндз Віктар Ханько!**

З нагоды Дня святара жадаем заўсёды заставацца верным Хрысту. Няхай Ён адорвае Вас патрэбнымі ласкамі, каб яшчэ паўней рэалізаваць святарскае пакліканне, а высілак трывання побач з Ім няхай будзе ўзнагароджаны радасцю Уваскрасення. Дзякуем за тое, што адкрываеце перад намі дар Эўхарыстыі як крыніцы сілы, моцы і святла ў штодзённым жыцці, а таксама за кожны дзень, калі праз Вашы рукі ўдзяляліся святыя сакраманты.

*Сябры*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Спірыдону**

з нагоды Дня святара ад усяго сэрца жадаем шмат сіл, стойкасці, цудоўнага плёну ў працы на ніве Пана, а таксама шчодрых ласкаў і благаслаўлення ад уваскрослага Хрыста.

*Вернікі з парафіі Мсцібава*

**Паважаным Ксяндзам Юрыю Канапельку і Андрэю Пышынскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем шмат ласкаў, моцы і благаслаўлення ад уваскрослага Пана, а таксама сапраўднай радасці, шчасця і супакою.

*Вернікі з парафіі Мсцібава*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана жадаем здароўя, шчасця, поспехаў, шмат Божых ласкаў, радасці на кожны дзень святарскай паслугі, апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай уваскрослы Езус Хрыстус адорвае Вас сваёй любоўю.

*Былыя парафіяне з Навіянкі*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Дзмітрыю Несцеру, Юрыю Марціновічу і Віктару Савіцкаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем здароўя, душэўнага супакою, зычлівых людзей побач, нястомнай радасці на кожны дзень. Няхай Ваша жыццё будзе шчаслівым і благаслаўлёным, а Бог адорвае сваімі ласкамі.

*Вернікі з капліцы Вінцукі*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Лебядзевічу**

з нагоды Дня святара, Велікодных свят і Імянін жадаем здароўя, поспехаў у душпастырскай працы, радасці і стойкасці на кожны дзень. Няхай Бог адорвае Вас неабходнымі ласкамі, Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай, а Святы Дух асвячае дарогу і дорыць супакой на ўсё жыццё.

*Колы Жывога Ружанца з в. Суботнікі*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Спірыдону**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, натхнення і вытрымкі на доўгія гады, шчодрых ласкаў і благаслаўлення ад уваскрослага Хрыста, дароў Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і цудоўнага плёну на Божай ніве. Няхай Езус валадарыць у Вашым сэрцы, дні праходзяць шчасліва сярод добрых і зычлівых людзей, а святло Хрыста асвячае Ваш жыццёвы шлях.

*Былыя парафіяне з Рандзілаўшчыны*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем шчодрых Божых ласкаў, моцы Святога Духа, няспыннай апекі Найсвяцейшай Маці, поспехаў у душпастырскай працы, моцнага здароўя, шчырых і зычлівых людзей на жыццёвым шляху. Няхай кожны новы дзень прыносіць толькі добрыя весткі, сэрца не кранаюць трывогі і смутак, а праца прыносіць задавальненне.

*Парафіяне з Рандзілаўшчыны*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Рушніцкаму**

з нагоды Велікодных свят складаем сардэчныя пажаданні. Няхай душпастырскае служэнне будзе яркім і цудоўным, а ўваскрослы Езус моцна трымае за руку на жыццёвым шляху. Няхай добры Бог благаславіць Вас і адорыць сваёй ласкай, а Маці Божая няспынна апекуецца. Дзякуем за свята Святога Духа, якое праз Вас раз'яснілі нам Божае слова.

*Ружанцовае кола МБ Анёльскай*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Бяганскаму**

з нагоды Велікодных свят і з падзякай за праведзеныя ў нашай парафіі рэкалекцыі дасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай добры і міласэрны Бог адорвае Вас моцным здароўем, цярплівасцю, супакоем і ўсімі патрэбнымі ласкамі, Маці Божая ахінае апекай і любоўю, а Святы Дух нястомна ўдзяляе свае дары і дапамагае ў святарскім служэнні.

*Вернікі з парафіі Каробчыцы*

**Паважаным Ксяндзам Паўлу Шанчуку, Ігнату Санюту, Віталію Чабатару, Станіславу Мацюкевічу, Паўлу Урбану**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, душэўных сіл, Божага благаслаўлення, мужнасці ў нялёгкім святарскім служэнні, дароў Святога Духа, штодзённай апекі Маці Божай і людской добразычлівасці. Няхай уваскрослы Езус апекуецца Вамі і напаўняе сэрца любоўю, дадае ўпэўненасці і становіцца крыніцай супакою і памяркоўнасці.

*Вернікі з парафіі МБ Шкаплернай, в. Прывалка*

**Паважаныя Айцы Пробашч Андрэй Агель, Аляксандр Махнач і ўсе Айцы Піяры!**

З нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, сіл і цярплівасці ў душпастырскай паслузе. Няхай кожны Ваш дзень будзе шчаслівы і благаслаўлёны, сэрца напаўняе радасць, любоў і надзея, у душы вые сыходзіць усмешка. Няхай Найсвяцейшая Маці нястомна моліцца за Вас.

*Вернікі з парафіі Ліда-Індустрыяльны*

**Паважаныя Ксёндз Пробашч Віталій Чурган і Сястра Зоф'я Смятанка!**

З нагоды Велікодных свят шчыра жадаем, каб уваскрослы Езус адарыў Вас моцным здароўем, цярплівасцю, стойкасцю, душэўным супакоем і ўсімі патрэбнымі ласкамі. Няхай на дарозе, якую ўказаў Вам Пан, заўсёды будуць побач Езус і Яго Маці, а жывы агонь Святога Духа, які палае ў Вашых сэрцах, ніколі не аслабне. Дзякуем за шчырыя малітвы, мудрыя казанні, увагу, сардэчнасць і цярплівасць да нас.

*Дзеці і моладзь, Кола Жывога Ружанца МБ Тракельскай і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з парафіі Перамянення Пана ў Юрацішках*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**

з нагоды Вялікага чацвярга і Велікодных свят складаем сардэчныя пажаданні і падзяку. Няхай дарога, на якую Вас паклікаў Хрыстос, будзе дарогай да святасці. Любіце сваё святарства, умейце распазнаць у ім евангельскі скарб, за які варта аддаць усё. Жадаем досведу Божай любові, радасці, супакою і прысутнасці Найсвяцейшай Тройцы ў кожны момант, а таксама нястомнай апекі Панны Марыі.

*Апостальства "Маргарытка" і парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Гнезне*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Аляксандру Раманоўскаму, Прэлату Юзафу Трубовічу, Эрнэсту Мікалайчыку і Андрэю Зайко**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят складаем шчырыя віншаванні. Бог сярод соцень рук абраў Вашыя, даў ім благаслаўленне, а ў словах даў сілу агня. Вы дорыце людзям святло, дабрыню і надзею. Дзякуем за цярплівасць, адказнасць, клопат, любоў і павагу да кожнага з нас. Няхай Маці Божая ахінае Вас сваёй любоўю, а Езус благаслаўляе Вашу святарскую працу.

*Вернікі з парафіі Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

**Паважаным Ксяндзам Артуру Малафею і Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем шчодрых Божых ласкаў. Няхай кожны дзень душпастырскай паслугі будзе напоўнены радасцю і супакоем, а праца на карысць Богу і людзям прыносіць шчодры плён. Жадаем моцнага здароўя, аптымізму, надзеі, сіл для рэалізацыі ўсіх планаў. Мы ўдзячны Вам за адданую службу, абвяшчэнне Божага слова, цудоўны прыклад веры і мудрасці, адкрытае сэрца і клопат пра кожнага з нас.

*Вернікі з парафіі Гродна-Аўгустовак*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яўгену Укуронісу, Алегу Яновічу і Сястры Магдаліне Кулай**

з нагоды Велікодных свят жадаем, каб добры Бог быў для Вас крыніцай сілы і радасці ў выконваемай паслузе, Святы Дух апраменьваў святлом, а Марыя прытуляла да свайго сэрца. Дзякуем за адданае служэнне, добрае сэрца, любоў і цярплівасць да нас. Няхай уваскрослы Езус узнагародзіць Вас за ўсе малітвы, мудрыя казанні і прыклад набожнасці.

*Вернікі з парафіі св. Яна Паўла ІІ у Смаргоні*

**Паважаным Ксяндзам Дзмітрыю Урбановічу, Артуру Валчкевічу, Юрыю Ёдзіку, Віталію Цыбульскаму і Аляксандру Вараб'ёву**

з нагоды Велікодных свят сардэчна жадаем Божых ласкаў, моцнага здароўя, шчасця, доўгіх гадоў жыцця, добрых і чулых людзей навокал. Няхай Пан няспынна адорвае Вас сваімі ласкамі, а Найсвяцейшая Маці прытуляе да свайго сэрца ў цяжкія хвіліны жыцця.

*Былыя парафіяне з парафіі св. Яна Паўла ІІ у Смаргоні*

**Паважаным Айцам Юрыю Саковічу, Ануфрыю Альховіку і Леанарду Адушкевічу, Братам Сяргею Калюту, Уладзіміру Лапуху, Ігару Філіпіну і Збышку Карповічу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем душэўнага супакою і цяпла, шмат сіл і стойкасці, каб крочыць нялёгкім святарскім шляхам. Няхай на ім Вам заўсёды спадарожнічае Езус і Марыя, а жывы агеньчык Святога Духа, што жыве ў сэрцы, дапамагае людзям знайсці шлях да веры і Касцёла.

*Вернікі з Карэлічаў і Варончы*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Церабею**

з нагоды Велікодных свят і Імянін сардэчна жадаем апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка на кожны дзень жыцця, святла Святога Духа, усіх патрэбных Божых ласкаў, моцнага здароўя, сіл, а таксама благаслаўлёнага плёну на душпастырскай ніве. Шчасці Божа!

*Вернікі з Барунаў*

**Паважаным Ксяндзам Каноніку Здзіславу Вэдэру, Пробашчу Алегу Жураўскаму, Алегу Каралёву, Юзафу Багдзевічу, Віктару Захарэўскаму, Аляксандру Мятліцкаму, Паўлу Раманоўскаму, Аляксандру Пятровічу і Айцу Казіміру Мараўскаму**

з нагоды Велікодных свят сардэчна жадаем здароўя на доўгія гады жыцця. Няхай уваскрослы Хрыстос адорвае Вас шчодрымі ласкамі, штодзённа ўзмацняе любоўю і надзеяй, а Найсвяцейшая Маці нястомна апекуецца Вамі.

*Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

працяг на с. 8

# Ад шчырага сэрца

**Паважаным Сёстрам Марыі Стасевіч, Вераніцы Блізнюк, Ірыне Барцэвіч, Валянціне Кот, Мар'яне Алешчык, Філатэі Ціхановіч, Аляксандры Арэшка, Агаце Смольскай і Клары Волчэк**

з нагоды Велікодных свят складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Ваша жыццё будзе напоўнена святлом і любоўю, а Збаўца вядзе прыгожай сцежкай, адорвае здароўем і цярплівасцю.

*Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважаным Ксяндзам Антонію Абухоўскаму, Юрыю Павайбу, Юрыю Свіслоцкаму, Юрыю Марціновічу, Вітольду Лазавіцкаму, Юзафу Ганьчыцу, Аляксандру Севасцьяновічу, Айцу Казіміру Енджэйчаку, Сёстрам Гарэцці Міленкевіч, Эўхарыі Гульбуй, Паўле Радзівілка, Юліце Пятровай і Серафіме Гапеевай**

з нагоды Вялікага Чацвярга і Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, сіл, Божага благаслаўлення, апекі Найсвяцейшай Маці, шчодрых дароў Святога Духа. Няхай уваскрослы Хрыстос адорыць Вас сваімі ласкамі, любоўю і супакоем.

*Вернікі з Тэаліна*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Руслану Мазану і Святарам дэканата Вялікая Бераставіца**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят складаем сардэчныя пажаданні. Няхай уваскрослы Езус Хрыстус адорыць Вас сваімі ласкамі, радасцю і супакоем.

*Францішканскі ордэн свецкіх з Вялікіх Эйсмантаў*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Віктару Велівісу і Яўгену Ціхану, а таксама Сястры Ядзвізе Мяцеліцы**

з нагоды Велікодных свят складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Усемагутны дае моцы і здароўя, Езус Хрыстус благаслаўляе кожны Ваш дзень, Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух шчодра надзяляе дарамі і супакоем.

*Парафіяне з касцёла св. Казіміра ў Путрышках*

**Паважанай Сястры Ядзвізе Мяцеліцы**

з нагоды Дня нараджэння жадаем здароўя, поспехаў ва ўсіх справах, добразычлівых людзей побач, душэўнага супакою і няспыннай радасці на кожны дзень. Няхай Маці Божая атуляе Вас сваім плашчом і штодзённа апекуецца.

*Парафіяне з касцёла св. Казіміра ў Путрышках*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Рудзевічу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем здароўя на доўгія гады, шчасця, радасці, поспехаў у паслузе, усіх Божых ласкаў на святарскім шляху. Няхай кожны дзень будзе напоўнены цеплынёй, людской зычлівасцю і супакоем, а ўваскрослы Хрыстос заўсёды апекуецца Вамі.

*Парафіяне з в. Старое Сяло*

**Паважанаму Ксяндзу Яўгену Учкуронісу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, радасці, святла, натхнення і сіл у душпастырскай паслузе, а таксама Божага благаслаўлення. Няхай усе мары і задумы здзяйсняюцца, а побач будуць добразычлівыя людзі.

*Былыя парафіяне з в. Старое Сяло*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Руслану Мазану**

з нагоды Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця і зычлівых людзей побач. Няхай усе добрыя намеры рэалізуюцца, кожны дзень будзе напоўнены Божай радасцю і святлом, а Хрыстос дадае сіл і цярплівасці.

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Вялікіх Эйсмантаў*

**Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Несцеру**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, радасці на кожны дзень, Божага благаслаўлення, нястомнай апекі Панны Марыі і дароў Святога Духа. Няхай добры Бог заўсёды Вам дапамагае і адорвае сваімі ласкамі. Дзякуем за адкрытае сэрца і ахвярную паслугу на карысць Богу і людзям, а Вашай маме – за выхаванне сына.

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Геранёнаў*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Марціновічу**

з нагоды Дня святара, Велікодных свят і Імянін складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, Божага благаслаўлення, дароў Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай святы Заступнік штодзённа Вам дапамагае ў жыцці і паслузе.

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Геранёнаў*

**Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем здароўя, радасці, душэўнага супакою, сіл у душпастырскай працы. Няхай Пан Бог благаслаўляе кожны дзень Вашай святарскай паслугі, Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай заўсёды і ўсюды, а Святы Дух шчодра адорвае сваімі ласкамі.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з в. Дуды*

**Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем добрага здароўя, радасных дзён, душэўнага супакою і шчодрага плёну ва ўсіх справах. Няхай добры Бог стала Вас благаслаўляе, Панна Марыя выпрошвае ў свайго Сына неабходныя для Вас ласкі, а святы Заступнік заўсёды будзе побач.

*Касцёльны камітэт і парафіяне з касцёла Нараджэння НПМ, Дуды*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Кузьмічу**

з нагоды Дня святара, Велікодных свят і Імянін перасылаем сардэчныя віншаванні.

Да Панны Марыі
малітвы ўзносім,
За кожны Ваш дзень
Пана Езуса просім:
Хай будзе здароўе,
любоў і цяпло,
Жыццё каб цікавым
і добрым было!
Дарогі шчаслівай
і справы ўдалай,
Каб дома матуля
заўсёды чакала.
Ніякія цяжкасці
хай Вас не страшаць.
Пан Бог дапаможа
ў цяжкасцях Вашых!

*Вернікі з парафіі Новы Двор, вул. Зарэчная*

**Паважаным Айцам Пробашчу Андрэю Зую і Вітольду Жэльветра**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, душэўнага супакою, радасці і нязгаснага запалу ў сэрцы. Дзякуем за абвяшчэнне Божага слова, разуменне, дабрыню, а таксама руплівую працу ў нашай парафіі.

*Вернікі з парафіі св. Казіміра ў Ліпнішках*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рушніцкаму**

з нагоды Дня святара перасылаем букет найлепшых пажаданняў: здароўя, поспехаў, зычлівых людзей побач, душэўнага супакою, нястомнай радасці на кожны дзень. Няхай Маці Божая атуляе Вас сваім плашчом, каб Вы маглі шчасліва выконваць сваю паслугу і цешыць усіх усмешкай.

*Сем'і Стэцкевіч і Васільевых*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рушніцкаму**

з нагоды Велікодных свят перасылаем падзяку і найлепшыя пажаданні. Няхай Божае ўваскрасенне ўчыніць, што ў сэрцы кожнага з нас абудзіцца іскра, якая распаліць цяпло нашай душы. Няхай Пан Бог спадарожнічае Вам кожны дзень, бароніць ад усякага зла, а непрыемнасці дапаможа вырашыць.

*Парафіяне з Каробчыцаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Ігнатовічу**

з нагоды Дня святара, Велікодных свят і Імянін жадаем моцнага здароўя, Божай моцы, суцяшэння ў цяжкіх хвілінах, цярплівасці, каб вытрымаць нягоды гэтага свету, а таксама нястомнага запалу на абраным шляху служэння Богу і людзям.

*Парафіяне*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Ёдзіку**

з нагоды Дня святара, Велікодных свят і Імянін жадаем Божага благаслаўлення на кожны дзень святарскай паслугі, доўгіх гадоў жыцця, моцнага здароўя, радасці, верных сяброў ды адкрытых душой і сэрцам людзей навокал. Няхай уваскрослы Хрыстос заўсёды валадарыць у Вашым сэрцы, дадае шмат сіл, запалу і новых ідэй, а Анёл-ахоўнік чувае над Вамі.

*Парафіяне з Цудзенішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана жадаем шчодрых Божых ласкаў, здароўя, душэўнага супакою, багатага плёну святарскай паслугі. Няхай Маці Божая кожны дзень ахінае Вас плашчом сваёй мацярынскай апекі.

*Вернікі з г. Масты*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Здзіславу Пікулу**

з нагоды Велікодных свят сардэчна жадаем моцнага здароўя, сіл, людской зычлівасці, радасці, душэўнага супакою і шчодрага плёну на ніве Пана. Дзякуем за тое, што вучыце нас сапраўднай любові да Касцёла і людзей. Мы ганарымся Вамі і паважаем за такую вялікую адданасць Богу. Няхай міласэрны Айцец узнагародзіць Вас за гэта.

*Касцёльны камітэт і парафіяне з касцёла Унебаўзяцця НПМ у Дзятлаве*

**Паважаным Ксяндзам Юрыю Грыцко і Ігару Анісімаву**

з нагоды Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні: усіх ласкаў ад уваскрослага Езуса, добрага здароўя на доўгія гады і шмат сіл на святарскім шляху.

*Вернікі з парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў в. Першамайская і капліцы Божай Міласэрнасці ў в. Хадзілоні*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай здароўе будзе моцным, у сэрцы заўсёды жывуць радасць і супакой, а энергія спадарожнічае Вам доўгія гады. Няхай святы Заступнік апекуецца Вамі, а Езус Хрыстус і Яго Найсвяцейшая Маці адорваюць бязмежнай любоўю і асвячаюць кожны дзень жыцця.

*Вернікі з парафіі Божай Міласэрнасці, Доцішкі*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Віктару Велівісу і Яўгену Ціхану**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем добрага здароўя на доўгія гады, сілы, душэўнага супакою, сталай апекі Найсвяцейшай Маці, павагі, моцы і стойкасці ў служэнні Богу і людзям. Няхай уваскрослы Збаўца нястомна адорвае Вас сваімі ласкамі, штодзённа благаслаўляе і падтрымлівае на душпастырскім шляху.

*Парафіяне з касцёла св. Роха*

**Шаноўнай Сястры Ядзвізе Мяцеліцы**

з нагоды Дня нараджэння і Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, нястомнай радасці, душэўнага супакою, аптымізму, поспехаў у паслузе на карысць Богу і людзям. Няхай уваскрослы Збаўца штодзённа ўдзяляе Вам сваё благаслаўленне.

*Парафіяне з касцёла св. Роха*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Барысевічу**

з нагоды свят Уваскрасення Пана шчыра жадаем патрэбных Божых ласкаў, няспыннай апекі Панны Марыі, нязгаснага запалу для абвяшчэння Божага слова, зычлівых людзей на святарскім шляху, здароўя і душэўнага супакою.

*Парафіяне з Наваельні*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Рудзевічу**

з нагоды Велікодных свят перасылаем шчырыя пажаданні, спалучаныя з малітвай. Жадаем патрэбных Божых ласкаў і апекі Панны Марыі на доўгія гады жыцця, супакою, моцнага здароўя, поспехаў у паслузе на Божай ніве, а таксама добразычлівых людзей побач.

*Вернікі з парафіі Тракелі*

**Паважаным Ксяндзам Мар'яну Хаменю, Пятру Вішнеўскаму і Генрыху Яблоньскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, шмат сіл, стойкасці і задавальнення ад выконваемай паслугі. Няхай добры Бог узнагародзіць і ўзмоцніць, каб жыццё было напоўнена любоўю, дабрынёй і надзеяй.

*Вернікі з в. Субачы і Косіна*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**

з нагоды Велікодных свят жадаем Божага благаслаўлення на кожны дзень жыцця, апекі Найсвяцейшай Маці, шчодрых дароў Святога Духа. Няхай уваскрослы Езус дапамагае Вам у рэалізацыі ўсіх планаў і намераў.

*Яна, Валерый і Вераніка*

**Паважанаму Айцу Пробашчу Андрэю Агелю**

з нагоды Дня нараджэння дасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай міласэрны Бог адорвае Вас моцным здароўем, цярплівасцю, супакоем і ўсімі патрэбнымі ласкамі, Маці Божая ахінае апекай і любоўю, а Святы Дух нястомна спасылае свае дары і дапамагае ў душпастырскім служэнні. Жадаем шчырых і добразычлівых людзей на жыццёвым шляху, радасці і шчодрага плёну ў службе Богу і людзям.

*Вернікі з парафіі Ліда-Індустрыяльны*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят сардэчна жадаем шмат радасці і дабра, моцнага здароўя, аптымізму, поспехаў у душпастырскай паслузе, Божага благаслаўлення, шчодрых дароў Святога Духа і нястомнай апекі Маці Божай. Няхай уваскрослы Хрыстос прыносіць духоўнае перараджэнне, напаўняе супакоем і верай, дае сілу, каб пераадолець цяжкасці, і магчымасць упэўнена глядзець у будучыню. Дзякуем за чуласць, шчырасць, сардэчнасць, падтрымку і за тое, што заўсёды моліцеся за нас.

*Малітоўная група МБ Кангрэгацкай*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Раманоўскаму**

з нагоды Імянін жадаем, каб Пан Езус адорваў моцным здароўем, радасцю, цярплівасцю ў святарскай паслузе, Святы Дух спасылаў свае шчодрыя ласкі, Марыя прытуляла да свайго сэрца і ўдзяляла благаслаўленне як Маці Хрыста.

*Парафіяне і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам, Гродна-Паўднёвы*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Баклажцу**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, доўгіх і шчаслівых гадоў жыцця, усіх Божых ласкаў, добрых і зычлівых парафіян. Няхай Езус Хрыстус благаслаўляе Вас, Святы Дух асвячае святарскі шлях, а Найсвяцейшая Панна Марыя заўсёды будзе побач.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Крамяніцы*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Спірыдону**

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, добрых людзей побач, шчодрых Божых ласкаў, шмат радасці ў душпастырскай паслузе і толькі шчаслівых хвілін. Няхай Бог спасылае на Вас свае дары, а Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй мацярынскай любоўю і апекай.

*Вернікі з капліцы Вердамічы*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Сушынскаму**

з нагоды Імянін жадаем доўгіх гадоў жыцця ў добрым здароўі, шчасця, цярплівасці і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай побач заўсёды будуць добрыя і зычлівыя людзі, а праца на Божай ніве прыносіць шчодры плён.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Германішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Малафею**

з нагоды 13-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем шчасця і як мага больш радасных хвілін на працягу ўсяго жыцця. Няхай міласэрны Бог праз нашы малітвы ўзнагародзіць Вас моцным здароўем, сілай, стойкасцю, нязгасным запалам у шчырай і адданай паслузе Богу і людзям. Няхай Маці Божая атуліць сваім плашчом, ахіне ласкай і дабрынёй, а Святы Дух асвеціць дарогу, па якой мы ідзём разам з Вамі. Дзякуем за Божае слова, якое засяваецца ў нашых сэрцах, за зычлівасць, малітву і цярплівасць да нас.

*Вернікі з парафіі Гродна-Аўгустовак*

**Паважанаму Ксяндзу Станіславу Лабану**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, супакою ў душы, а таксама ўсяго таго, што неабходна для шчасця. Няхай добры Бог узнагародзіць за дабрыню, а Маці Божая нястомна клапоціцца пра Вас.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Беняконяў*

**Паважанаму Ксяндзу Станіславу Пытэлю**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, радасных дзён жыцця і душэўнага супакою. Няхай міласэрны Бог адорвае Вас ласкай і супакоем, Маці Божая і святы Заступнік штодзённа апекуюцца, а Святы Дух асвятляе шлях і заўсёды будзе побач.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Васілішкаў*

**Паважанай Сястры Мар'яне Алешчык**

з нагоды Імянін жадаем добрага здароўя на кожны дзень, радасці і сіл, патрэбных у служэнні Пану, а таксама дароў Святога Духа і нястомнай апекі святога Заступніка.

*Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лаўыш, Алена Гальчэня; тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2056; тыраж 5045; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная